# Слова да настаўнікаў

(Працяг са стар. 1)

распаўсюджвання ведаў. А веды здабываюцца найлягчэй на роднай мове. Настаўнікі, працуючыя сярод беларускага насельніцтва, не павінны забываць аб гэтым. Мова — гэта душа народа, гэта найвялікшы скарб. Першай настаўніцай роднай мовы з'яўляецца маці, але дасканаленне роднай мовы і распаўсюджванне на ёй ведаў праводзіце Вы, настаўнікі. Ад Вас залежыць выхаванне і пракладванне дарогі беларускім дзеткам у далейшае жыццё ў нашай Радзіме, з года ў год усё больш шчаслівае і паўнейшае радасці.

Многія з Вас пачнуць працаваць ужо 17-ты навучальны год у Народнай Польшчы. Паложаныя Вамі заслугі і ахвярнасць у Вашай працы высока ацэньвае наша Партыя і Урад, увесь народ. Няхай і ў бліжэйшыя гады не будзе недахопу ў Вас энергіі і ахвярнасці шчыра адносіцца да сваёй працы і актыўна ўключацца ў пабудову будучага для сваіх выхаванцаў.

Рэдакцыйны калектыў «Нівы» спадзяецца, што ў новым навучальным годзе больш чым дагэтуль настаўнікаў, будзе супрацоўнічаць з рэдакцыяй, будзе дзяліцца з намі сваімі радасцямі, турботамі і дапамагаць нам лепш пазнаваць праблемы Вашага наваколля. Выкладчыкі беларускай мовы пачатковых школ павінны звярнуць больш увагі на «Зорку», карыстацца ёю як дапаможнікам у навучанні дзяцей роднай мове.

У надыходзячым навучальным годзе жадаем усім настаўнікам поспехаў у працы і шчасця ў асабістым жыцці.

# Фотавітрына



Нядаўна ў СССР пабывала дзяржаўная дэлегацыя рэспублікі Ганы. На здымку члены дэлегацыі ў Мікіты Хрушчова, які прыняў прадстаўнікоў Ганы на паўднёвым беразе Крыма, дзе ў той час адпачываў.



15 жніўня Карэйская Народна - Дэмакратычная Рэспубліка святкавала 15 гадавіну вызвалення. На здымку Пхен'ян — сталіца рэспублікі.



У даследчым інстытуце ў Бжэзне (Познанскае ваяводства) закончылася выпрацоўванне прататыпу механічнай даяркі. Двухвядровую даярку ДМ—2 можна лёгка пераносіць і прыладзіць у кожным хляве. На здымку: Выпрацоўванне новай даяркі.



Эмблема аркестра бундэсвера. Не хапае тут толькі... свастыкі.

# Дарога ў космас для чалавека адчынена

У кароткім паведамленні Тэлеграфнага Агенцтва СССР, апублікаваным 21 жніўня г. г., адзначалася, што другі савецкі касмічны карабель пасля восемнаццатага акружэння зямнога шара па спецыяльнаму сігналу спусціўся на яго паверхнасць у запланаваны раён.

Лёт і пасадка апошняга карабля - сатэліты значна перавышае дагэтуляшнія савецкія перамогі ў космасе. Самае высокае прызнанне выклікае вага карабля — 4.600 кг. без апошняй часткі ракеты — насіцеля. Гэта прыблізна вага поўнага грузавіка сярэдняй велічыні. Увядзенне на арбіту такога калоса патрабуе надзвычай моцнага паліва ў вялікіх колькасцях. Савецкія вучоныя павінны былі вынайсці такое паліва, а гэта ізноў сведчанне іх грандыёзнага поспеху, апярэджваючага датагачасныя амерыканскія дасягненні.

Савецкі касмічны карабель меў унутры кабіну, у якой знаходзілася выдатная навуковая апаратура. Яна бараніла сабак Стрэлку і Белку, а таксама іншых прадстаўнікоў жывёльнага свету, насякомых і расліны перад смяротным сонечным праменяваннем космасу, спрыяла нармальным жыццёвым працэсам у кабіне. Аднак не толькі. Тут былі радыёвыя прыёмнікі і перадатчыкі, спалучаныя са стыкавым абсталяваннем, ды іншыя апараты, рэгулюючыя розныя працэсы ўнутры касмічнага карабля і па-за ім. Апрача таго, упершыню была тут абсталявана тэлевізійная камера, якая перадавала фрагменты лёту і жыцця пасажыраў. Усё тэхнічнае аснашчэнне касмічнага карабля гаворыць аб велізарным поспеху савецкіх вучоных. Дзякуючы ім упершыню ў гісторыі непашкоджаны сатэліт, які акружыў зямны шар восемнаццаць разоў, вярнуўся на яго паверхнасць. Нават людзі, якія зусім не разбіраюцца у гэтым пытанні, могуць уявіць усе цяжкасці, звязаныя з такім мерапрыемствам. З прычыны зямнога прыцягнення карабель не можа свабодна падаць на паверхнасць зямлі. Ён ляцеў бы ўсё хутчэй і хутчэй і ўрэшце пад уплывам трэння у густых пластах атмасферы згарэў бы. Лёт уніз, затым, павінен праходзіць пад невялікім вуглом нахілення і не вельмі хутка. Усё гэта патрабуе вельмі дакладных вылічэнняў дзеля тармажэння карабля і што найважнейшае — перадачы ўсіх рашэнняў з зямлі механізмам карабля, які знаходзіцца за тысячы кіламетраў ад нас. Савецкія астранаўты поўнасцю справіліся з усімі цяжкасцямі.

Гэтыя дасягненні савецкай навукі выклікалі на захадзе розныя каментарыі. Побач са словамі прызнання, пераважна з боку вучоных, у палітычных колах выказваецца думка аб небяспецы савецкай перавагі ў космасе. І сапраўды. Такая перавага існуе вельмі выразна. Нягледзячы на шматлікія спробы амерыканцаў у апошні час ім удалося злавіць кабіну, якая аддзялілася ад ракеты «Дыскаверэр XIV». Кабіна вагою ў 180 кг. падала на парашуце. Каб назіраць за яе лётам Злучаныя Штаты змабілізавалі цэлую марскую і паветраную флатылію. Гэтыя факты найлепш сведчаць аб перавазе савецкай навукі над амерыканскай навукай. Трэба адзначыць, што Савецкі Саюз выкарыстоўвае свае поспехі ў космасе толькі дзеля справы міру. Паспяховы лёт і пасадка савецкага касмічнага карабля прадказвае, што неўзабаве ў планетныя прасторы адправіцца першы чалавек. І мы пераконаны, што гэта будзе савецкі чалавек!

УЛ. ЛАЗІНСКІ




Аднойчы у казарму шумна ўварваўся Хаманака і аб'явіў:

— Эй, сябры! Памятаеце, тады пабілі Комія! Кажуць, нікому не папала. Быццам бы начальнік атрада вырашыў замяць гэту справу.

— Няўжо праўда? — абрадавана перапытаў я.

— Гэта здорава! Цяпер усім вольнанаёмным прыдзецца задумацца, — не без зларадпасці зрабіў вывад Хаманака.

Ён ненавідзеў начальства. Пасля Хаясіда яму даставалася ад начальнікаў больш за ўсіх. Працуючы ў агульным аддзеле, ён раней за шматлікіх вольнанаёмных даведваўся аб усім новым і перадаваў гэта нам. Таму подлы Омі, яго начальнік, асабліва жорстка абыходзіўся з ім. Апрача гэтага, Хаманака быў вельмі прыгожы, і гэта, відавочна, таксама злавала брыдкага Омі.

Па расказах Хаманака, Хаясіда і яго сяброў спачатку павінны былі адправіць у Сіньцзін і там паставіць пад суд ваеннага трыбунала. Але ў гэты няшчасны вечар Комія, разгубіўшыся ад шаленства з-за нападзення на яго падначаленых, схапіў



трапіўшуюся пад рукі вінтоўку і пачаў ёю размахваць. Ад удару аб нешта цвёрдае на аружжы аказаўся пашкоджаны дзяржаўны герб — хрызантэма, гэта значыць звяршылася новае злачынства. На судзе яно абавязкова ўсплыло б, а гэта такая ганьба для атрада, што яго начальнік вырашыў захаваць усю гісторыю ў таямніцы.

У гэты вечар усе хадзілі з яснейшымі тварамі. Пасля вячэры хто пісаў пісьмы на радзіму, хто запісваў свае назіранні ў дзённік. Праўда, мы сумняваліся, што ўсе нашы пісьмы даручаюцца родным.

Прайшло ўжо два з паловай месяца з тых пор, як мы прыбылі ў атрад. За гэты час я напісаў дамоў каля дзесяці пісьмаў, а ад маці атрымаў толькі адно. Мае таварышы па службе за ўвесь час таксама атрымалі найбольш па два пісьмы. Але для ўсіх нас уцяшэннем быў сам працэс іх пісання. Гэта неяк набліжала нас да бацькоў і сяброў, якія засталіся на радзіме, і таму ўсе пісалі дамоў акуратна і старанна. У дзённіках не дазвалялася пісаць аб працы. Як і пісьмы, яны служылі нам толькі для асабістага ўцяшэння і не змяшчалі нічога, апрача асабістых успамінаў. Неяк вечарам, калі мы пісалі пісьмы, нечакана адчыніліся дзверы і ўвайшоў Омі.

— Хаманака, што ты там разгледжваеш? — адразу спытаў ён і, не глянуўшы на рэшту і не адказаўшы на прывітанні, накіраваўся проста да Хаманака, які нешта хутка схаваў пад стол.

— Пакажы! Чыя фатаграфія?

— У мяне... нічога няма, — нерашуча адказаў Хаманака, кончыкамі пальцаў папраўляючы акуляры.

— Чаму не выконваеш загаду? — Омі адштур-



хнуў Хаманака і выняў з пад стала схаваную там фатаграфію.

— Хто гэта жанчына? — злосна спытаў ён.

Мы дагадваліся, што Хаманака сябруе з дачкою лекара Імадо, Міцуё, які таксама працаваў ў агульным аддзеле. З размоў вольнанаёмных мы ведалі, што яго дачка была вельмі прыгожай. Зразумела, Омі не мог не пазнаць яе на фатаграфіі.

— Гэта фатаграфія дзяўчыны Імадо, — спакойна сказаў Хаманака.

— Што? Што гэта значыць? Быдла! Ад яе дастаў?

— Не, я знайшоў, — схлусіў Хаманака.

Я трэсся са страху за Хаманака. У яго адказе і паводзінах быў скрыты выклік, і гэта не магло не вывесці з сябе Омі.

— Знайшоў?... Хлусіш! Любуешся фатаграфіяй дзяўчынкі, усміхаешся, і, напэўна, думаеш, быдла, што займаешся патрэбнай справай?... Я цябе!...

Омі падняў правую руку. «Зараз ударыць,» — падумаў я.

Быццам рыхтуючыся прыняць аплявуху, Хаманака зняў акуляры, і, ледзь стрымліваючы хваляванне, працягваў:

— Пане Омі, вы не верыце мне? Я сапраўды знайшоў яе. Але калі вы думаеце, што я гавару няпраўду, калі ласка, рабіце са мною што хочаце.

— Глядзі ў мяне!

Омі вылаяўся і, апусціўшы руку, доўга глядзеў ў твар Хаманака, бледны, нервова скурчаны.

— Калі хлусіш, то літасці не чакай! Зразумеў? Фатаграфію я сам перадам пану Імадо.





© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

Карэспандэнцыя з БССР

# ЗА 6000 КІЛАГРАМАЎ МАЛАКА АД АДНОЙ КАРОВЫ

**(РАСКАЗ ДАЯРКІ САЎГАСА «РАЧКАВІЧЫ» СЛУЦКАГА РАЁНА Г. І. СТАТКЕВІЧ).**

У другім годзе сямігодкі мы, працаўнікі саўгаса, узялі на сябе павышаныя абавязацельствы. Жывёлаводы вырашылі атрымаць на 100 га зямлі па 359 цэнтнераў малака. Задумалася і я.

Падрабязна прааналізаваўшы сваю работу, я пераканалася, што магу за год атрымаць ад кожнай каровы з трынаццаці замацаваных за мною кароў не па 5 300 кг малака, як планавала дагэтуль, а па 6 000 кг. За першыя чатыры месяцы ўжо надаіла больш чым па 2 000 літраў малака ад каровы і заняла першае месца сярод саўгасных даярак рэспублікі. У чэрвені дабілася новых поспехаў — надаіла па 569 літраў малака. Паспяхова выканалі свае абавязацельствы і мае сяброўкі. За пяць месяцаў Ольга Лашуткова надаіла па 2173 кг малака, Анастасія Сяргеева — 2171, Ольга Якубовіч — 2057.

Часта ў мяне пытаюцца, як я дабіваюся высокіх надояў. На гэта пытанне нельга адказаць двума славамі. Раскажу аб тым, што мне здаецца найбольш важным у працы.

Нядаўна ў нас на ферме пабывала група калгасных даярак. Агледзеўшы памяшканне, адна з іх спытала:

— Пакажыце, калі ласка, як трэба правільна раздойваць кароў.

Прыйшлося растлумачыць, што зараз я магу ім паказаць толькі тэхніку даення і масаж вымя, а раздой — гэта нешта большае, аб'ядноўваючае цэлую сістэму мерапрыемстваў, накіраваных на павелічэнне прадуктыўнасці кароў. Фактычна ён пачынаецца ад моманту запуска. Раней запускалі мы кароў позна, намагаліся падоўжыць перыяд лактацыі. А зараз у саўгасе існуе строгі графік злучкі, запуска і ацёла кароў.

Мы прытрымліваемся такога правіла: прыйшоў час — запускай карову, не глядзі на ўдой. У сваёй групе некаторых кароў, як, напрыклад, «Ладзья», «Нара» запускаю за 50—60 сутак да цялення, нягледзячы на тое, што яны даюць яшчэ па 18 кг малака.

Запусціць малочную карову не надта проста. На гэта патрэбна каля 10 — 12 дзён. У зімовы час паступова скарачаю колькасць сочных і канцэнтраваных кармоў і пераважу іх на сена і салому. Летам перастаем ім даваць падкормку, абмяжоўваем вадзе. Паступова змяншаю лік даення ў дзень з трох да двух, а затым і да аднаго. Пазней пачынаю даіць праз дзень. У гэты час асабліва ўважліва трэба наглядаць за вымем каровы. Як толькі знікне малако, адразу перавожу карову на сухастойны рацыён.

Раней мы гаварылі так: навошта, маўляў, у гэты час карову добра карміць, яна ж малака не

**(Працяг на стар. 4)**



**Нядаўна калгаснікі калгаса «Савецкая Беларусь» Мінскага раёна ўрачыста адзначылі 66-годдзе старэйшай даяркі сельгасарцелі Алёны Акуліч. Такое свята ў калгасе праводзілася ўпершыню.**

**На нашым здымку юбіляр — Алена Акуліч.**

**(Працяг са стар. 1)**

года не бываў ён у цырульніка. Ён насіў вузкія, кароткія штонікі, як бы пазычаныя ад малодшага падрастаючага брата і замест кашулі — жаночую кофтачку, хіба таксама пазычаную ад сваёй сястры.

— Ці ж нам раўняцца да Амерыкі? — заўважыў другі студэнт, па скромным і акуратным выглядзе якога можна было пазнаць, што гэта прыхільнік «старога».

—Ну дык пабачце ў Заходняй Германіі, — непаддаваўся першы. — Яна вунь як была знішчана вайной, а як багата там жыве рабочы!

— Дык што па-твойму рабіць, каб у нас ўсе багата жылі, — не скрываючы іроніі спытаў прыхільнік «старога».

Апостал «новага» не змог словам вытлумачыць гэтага. Яго мужная балбатня зводзілася да таго, што народная ўлада не ўмее належна пакіраваць дзяржавай. Напрашваўся вывад, што калі б гэтага апостала «новага» паставіць на чале дзяржавы, дык рэкі самі паплылі б мёдам ды малаком.

Васемнаццацігадовая Ніна прыслухоўвалася з цікавасцю да спрэчкі. У яе неакрэпшых мазгах змагаліся супярэчлівыя думкі. Яна адчувала ў гу-

# КРЫВЫЯ СЦЕЖКІ

тарцы студэнта нейкі фальш, але не магла ўсвядоміць, у чым гэты фальш выражаецца, тым больш, што ў гэтым жа духу пісалі многія газеты, а перад усім студэнцкая «Папросту».

— Будучыня наша толькі ў сацыялізме, — даводзіў студэнт — прыхільнік «старога».

— Даволі нас кармілі будучыняй! Мы хочам жыць сёння, мы хочам ездзіць уласнымі самаходамі, жыць ва ўласных віллах. Хіба ж няпраўда? — звярнуўся неспадзявана прыхільнік «новага» да Ніны. Ніна не была падрыхтаванай адказаць адмоўна. Бо хіба ж ёй не хацелася б ездзіць на сваім аўтамабілі і жыць у раскошнай вілле?

Пасля ёй давялося прачытаць некалькі нігілістычных кніжак, абапёртых на «заходнія ўзоры». Гэта літаратура была перапоўнена чалавеканенавісніцтвам, вульгарнасцю, безнадзейнасцю, песімізмам і агідай. Героі яе адзначаліся поўнай безадказнасцю ў адносінах да грамадства.

Не, не падабалася ёй гэта літаратура. Але не чытаць яе — азначала праявіць сябе чалавекам адсталым. А прачытаўшы яе, мімаволі насоўваліся вывады: «Жыццё наша не мае ніякага сенсу, ніякай вартасці. А калі так, дык навошта мучыцца для нейкага міража будучыні. Трэба карыстацца жыццём так, каб пачуць яго смак».

### 3. НА СЛІЗКАЙ КЛАДЦЫ

За марамі аб добрым жыцці прыходзілі шэрыя будні. Месячнай зарплаты хапала толькі на скромнае пражыццё.

Ніне не прыходзілі ў галаву думкі аб абавязках яе ў адносінах да грамадства. Затое яна мела прэтэнзію да грамадства за тое, што яно не дазваляе ёй жыць так, як яна хоча. Лозунгі прыхільнікаў

**(Працяг на стар. 5)**

З гэтымі словамі Омі, грукаючы ботамі, выйшаў з памяшкання. Яму давялося прызнаць, што на гэты раз ён атрымаў паражэнне, але ўвесь яго злавесны выгляд нібы папярэджваў, што пры першым выпадку ён жорстка адпомсціць Хаманака.

Як толькі Омі скрыўся за дзвярыма, Хаманака раптам расплакаўся.

— Нягоднік! Які нягоднік!

І яму было ад чаго плакаць. Бессвядомая туга, дасада, сорам — ўсё гэта выклікала ў яго душы буру перажыванняў. І больш за ўсё сорам. Яму было сорамна за сябе, за тое, што ён схлусіў, быццам знайшоў фатаграфію, якую на самай справе падарыла яму каханая дзяўчына. Яго балюча мучыла тое, што гэта каштоўная для яго рэч з-за ўласнай маладушнасці трапіла ў рукі чужога, нягоднага чалавека.

* ✲ *

Хаясіда вярнуўся з гаўптвахты праз дзесяць дзён. Ён затрымаў мяне, калі я выходзіў са сталовай пасля вячэры.

— Прабач мне, я вінаваты перад табою... Сапраўды, не варта было тады звязвацца.

— О, як добра, што ты вярнуўся! Дык я ўвесь час толькі і думаў аб тым, што цяпер з табою будзе.

І я таксама шмат думаў у той вечар аб тым, што рабіць? Але, разумееш, паступіць інакш я не мог. Дык я ж абяцаў, і мне было непрыемна нават падумаць, што мяне могуць палічыць трусам. Усё ўжо было дагаворана. Я павінен быў упусціць вучэбную вінтоўку, гэта было сігналам.



Так пачаў свой расказ Хаясіда. Па яго словах, справа мелася так.

У той вечар Комія дзяжурыў. Было вырашана, што, калі ён пачне рабіць абход, Хаясіда падасць сігнал. Набліжаўся рашучы момант. У казарме панавала мёртвая цішыня. Усе, за выключэннем «загаворшчыкаў», спалі. Хаясіда, прыкідваючыся спячым, трымаў ў руках адзін канец шнура. Другі канец быў прывязаны да прыклада вучэбнай драўлянай вінтоўкі, якая стаяла ў пірамідзе. Задума Хаясіда была простая: ён пацягне за шнур, вінтоўка ўпадзе, і гэта будзе сігналам. Пачуўшы крокі Комія, ён крыху разгубіўся.

— Бачыш, прыкінуліся, што спяць, — насмешліва сказаў Комія, зраўняўшыся з ложкам Хаясіда. «Чаго ж я чакаю?» — мільганула ў Хаясіда трывожная думка, і ён дзёрнуў шнурок. Вінтоўка з грукатам ўпала на падлогу.

— Што?... Што такое? — закрычаў Комія, яшчэ не разумеючы, што здарылася.

Некалькі асоб, якія напружана чакалі сігналу, скочылі з ложкаў і пачалі хапаць з піраміды вінтоўкі.

— Бі! — крыкнуў нехта і пхнуў прыкладам у Комія.

— Падлюгі! Вы што, бунтаваць?! — дзіка зароў той.

— Не шумі! Мы табе цяпер не салдаты!

Страціўшы розум ад ярасці, Комія, на якога з усіх бакоў сыпаліся ўдары, схапіў адну з баявых вінтовак і пачаў раз'юшана размахваць ёю.

Вартаўнікі прыбеглі ўжо пасля таго, як Комія, выплёўваючы выбітыя зубы, з акрываўленым тварам выскачыў прэч. Калі быў наведзены парадак,



Хаясіда і іншыя ўдзельнікі начных падзей, апынуўшыся на гаўптвахце, упалі духам. Але здарылася так, што на самым пачатку допытаў на першы план нечакана ўсплыло пытанне аб вінтоўцы, якою трос Комія. На баявым аружжы быў пашкоджаны дзяржаўны герб — хрызантэма. Відавочна, Комія ў прыпадку ярасці задзеў вінтоўкаю за печ. Аб тым, што здарылася ў атрадзе гэтай ноччу, было вядома толькі ваеннаму міністэрству і камандаванню Квантунскай арміі. Ад вайсковых часцей гэты факт трымалі ў строгай таямніцы. Па ўказанні начальніка атрада справа была спынена, і ўсе ўдзельнікі расправы з Комія вярнуліся ў сваю групу. Начальнікам групы замест Комія быў назначаны былы вярбоўшчык Накано. Комія перавялі ў адзін з філіялаў атрада. Закончыўшы свой расказ, Хаясіда сказаў:

— Так, але мы ад гэтага нічога не выйгралі, наадварот, за намі цяпер будуць сачыць. Што ні кажы, але мне цяпер чамусьці нялоўка перад таварышамі. Яны задумваюцца: ці не застанецца ўсё па-старому? У мяне таксама ніякіх надзей на будучыню. Усё жыццё вазіся з пацукамі.

— Што рабіць? І я ў такім жа становішчы. Але не трэба падаць духам. Давай пройдземся лепш, забудзем аб усім.

Мы накіраваліся ў бок аэрадрома, але раптам Хаясіда затрымаўся.

— Ведаеш, вось я цяпер агледзеўся навокал, і мне так захацелася ўцячы з гэтага пекла. У душы я разумею, што гэта немагчыма, але ў мяне дрэнны характар: не супакоюся, пакуль не выканаю тое, што задумаў

**(Працяг на стар. 7)**





© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

З ЦЫКЛА: СУЧАСНАЯ САВЕЦКАЯ МЕДЫЦЫНА

# Як Вятроў вярнуўся да жыцця

У Падмаскоўнай псіханеўралагічнай бальніцы нядаўна ўрачы вярнулі да жыцця былога воіна Савецкай Арміі Пятра Вятрова, які з-за кантузіі на фронце ў 1942 годзе атрымаў глыбокае парушэнне памяці. Галоўны ўрач ў бальніцы Мікалай Лаўрэнаў расказвае аб гэтым так:

— Хворы Вятроў знаходзіўся ў нас на вылячэнні 18 год. Яго прывезлі ў снежаньскія дні 1942 года ў вельмі цяжкім стане. Памяць яго была пашкоджана. Ён не гаварыў, прымаў ежу толькі па прымусу ўрачоў. Хворы знаходзіўся ўвесь час у пасцелі. Ужываемыя спосабы лячэння не давалі вынікаў.

У мінулым годзе спрактыкаваны ўрач-псіхіятр Леанід Кандзеракоў вырашыў выпрабаваць новыя метады лячэння. Нядаўна пасля чарговага сеансу электратэрапіі хворы загаварыў. Яму ўсё лепш і лепш.

Хворы расказаў урачам аб акалічнасцях кантузіі, назваў адрасы сваякоў, напісаў ім пісьмы. Аказалася, што дзве сястры жывуць у горадзе Горкім. Адна з іх — Дар'я Нікіфараўна неўзабаве прыехала пабачыць брата. Радасць яе была бязмежная. Ад яе мы і даведаліся, што 18 год назад ім паведамілі, што байца Вятрова на фронце палічылі прапаўшым без вестак.

Якія ж метады лячэння ўжываліся да хворага? Урач Кандзеракоў расказвае:

— За апошнія гады бальніца пачала атрымліваць новыя лячэбныя сродкі і прэпараты. Іх я пачаў выкарыстоўваць побач з існуючымі. Усё гэта і, у прыватнасці, рэгулярнае ўжыванне курсаў таго ці іншага метаду лячэння на працягу ўсіх год і дало магчымасць дабіцца добрых вынікаў.

У цяперашні час Вятроў ахвотна гутарыць з акружаючымі, гуляе. Ён прыкметна ўзмацнеў. Вядома, пасля 18 год, праведзеных у пасцелі, ён яшчэ мае патрэбу ў добрым доглядзе і далейшым умацаванні здароўя.

...Пятра Вятрова мы сустрэлі ў акружаючым лячэбніцу садзе. Цяпер яму 47 год, але выглядае ён крыху маладзей на свае гады. Ён усміхаецца, ахвотна расказвае пра сябе.

— Памятаю, — расказвае ён, — што на фронце мяне з таварышамі паслалі ў дазор да нейкага фабрычнага будынка. Наляцелі варожыя самалёты, пачалася бамбёжка. Адна з бомб разарвалася паблізу, мяне засыпала зямлёй, параніла ў галаву дробнымі асколкамі. Я страціў пратомнасць. Было гэта ў 1942 годзе. І вось мне кажуць, што цяпер 1960!

**Паводле беларускага савецкага друку.**

# ДЛЯ МАЦІ

**Прыемна, калі нашы дзеці апрануты хоць танна, але акуратна, чыста і... што тут гаварыць — модна. Мода ўсім да твару.**

**Вось некалькі мадэляў для старэйшых дзяцей.**







ПАРАДЫ ЎРАЧА

# Што трэба ведаць аб харчаванні

Харчовыя прадукты даюць нам цеплавую энергію, якая вымяраецца ў калорыях. Даросламу чалавеку, не занятаму цяжкай фізічнай працай, у суткі патрабуецца ў сярэднім каля 3.000 — 3.200 калорый. Для людзей тых прафесій, дзе яшчэ пераважае цяжкая фізічная праца, патрэбная каларыйнасць сучаснага рацыёну складае 4.000 і больш калорый.

Пры лішняй каларыйнасці харчавання вага павялічваецца, пачынаецца атлусценне. Пры недастатковай каларыйнасці харчавання наступае схудненне.

Усе харчавыя прадукты складаюцца з бялкоў, тлушчаў, вугляводаў, вітамінаў, мінеральных солей, вады. Бялкі патрэбны як матэрыял для росту арганізма, а даросламу чалавеку як матэрыял для пастаяннага аднаўлення клетак і тканак цела. Працэс жыцця немагчымы без такога пастаяннага аднаўлення.

Наяўнасць бялкоў у прадуктах розная: ў 100 грамах ялавічыны ці бараніны без касцей знаходзіцца 15—20 грамаў бялка, у 100 грамах мякаці нятлустай рыбы — 17 грамаў, у 100 грамах тварагу тлустага — 14 грамаў, у 100 грамах тварагу абястлушчанага — 17 грамаў, у шклянцы малака — каля 7 грамаў, у 100 грамах хлеба — у сярэднім 6 грамаў, у 100 грамах круп — у сярэднім каля 8 грамаў, у 100 грамах бульбы ці капусты — 1 — 1.5 грама. Бялкі ўтрымліваюцца ў прадуктах як жывёльнага паходжання (мяса, рыба, сыр, малако, яйкі), так і ў раслінных прадуктах (хлеб, бабовыя, крупы).

Сутачную патрэбнасць у бялках пры рабоце сярэдняй цяжкасці можна цалкам забяспечыць, калі кожны дзень ужываць адну страву з мяса або рыбы, адну страву з тварагу, дзве шклянкі малака свежага або кіслага, прыкладна, палавіну яйка, адзін гарнір крупяны, 1 — 2 гародніныя стравы, каля 400—500 грамаў хлеба і мучных вырабаў. Чым больш разнастайная ежа, тым лепш засвойваюцца бялкі.

Колькасць тлушчавых рэчываў у ежы павінна быць прыкладна на 10 працэнтаў ніжэй колькасці бялковых рэчываў. Увогуле не рэкамендуецца ўжываць залішне тлустую ежу. Трэба толькі памятаць, што ў састаў яе штодзённа павінна ўваходзіць не менш чым 10 грамаў алею.

Вугляводы ўтрымліваюцца ў раслінных прадуктах, асабліва ў крухмалістых і цукровых. Колькасць вугляводаў у ежы павінна быць большай, чым колькасць бялкоў, прыкладна ў 4—4,5 раза.

Ужыванне вугляводаў здаровымі людзьмі ў значнай ступені рэгулюецца адчуваннем сытасці, а таксама перыядычным кантролем за вагай цела. Трэба, аднак, ведаць, што хлеб, крупы, бульба не могуць служыць адзінай крыніцай вугляводаў. У ежу павінны абавязкова ўваходзіць вугляводы розных пладоў і гародніны.

Рэкамендуецца празмерна не захапляцца ўжываннем цукру і саладасцей. Агульная колькасць іх павінны складаць не больш як 100 грамаў у суткі.

Вялікае значэнне ў харчаванні чалавека маюць вітаміны, асабліва ў пачатку вясны, калі дае сябе адчуваць сезонны недахоп гародніны.

# КАКАО



**Так выглядаюць плады какао (зразумела не аўсянога), якое нам вельмі смакуе, а якое усё яшчэ дарагое. каб можна было ўволю яго піць.**

# РЫБА ШАР



**Гэта рыба з групы скалазубых. Жыве ў Індыйскім акіяне і Міжземным моры.**

## ЦІ П'ЯНІЦА?

Як можаш пазнаць сябе, ці з'яўляешся налаговым алкаголікам, або блізкім да гэтага? Вось чатыры пытанні, якія памогуць табе сарыентавацца ў гэтым.

1. Ці не разачароўваешся, калі даведаешся, што ў гасціне, ці на забаве, на якую ідзеш, не будзе гарэлкі?

2. Ці падчас працы не марыш, каб выпіць чарку?

3. Ці сягаеш па чарку, калі адчуваеш трывогу, незадаваленне, змучанне, або калі адпадае табе ахвота жыць?

4. Ці п'еш, каб хоць на хвіліну забыць аб прыкрасцях, якіх прычынай бывае сям'я, або хто іншы.

Калі, дакладна падумаўшы над кожным пытаннем, на ўсе чатыры пытанні адкажаш «так», значыць, ты ўжо заавансаваны алкаголік, альбо з'яўляешся добрым матэрыялам на налагоўца

Для гаспадара

# Кроў — паша

Свежая кроў — гэта вельмі каштоўная паша: галоўным яе складнікам з'яўляецца бялок. Адзін кг. свежай крыві з даданнем 0,6 кг. ячменю мае такую вартасць як 7 літраў малака.

Кроў з бойні можа мець у сабе розныя хваробаўтваральныя заразкі, таму перш чым даваць жывёле, трэба яе зварыць. Варыць трэба паўтары гадзіны, пры варэнні трэба пастаянна мяшаць, каб не прыгарэла. Звараная кроў гусцее і выдзяляецца вада, якую трэба адліць. Таму найлепш звараную кроў працадзіць, потым пасячы на дробныя кавалкі і замяшаць з іншымі пашамі.

Кроў добра даваць свінням, кормнікам у порцыях 1/2 кг. на 100 кг. жывой вагі. Мацёрам нельга даваць крыві. бо заўважана, што мацёра, кормленая крывёй. патрапіць з'есці сваіх парасят.

Курам даваць 7 грамаў на дзень на штуку



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023




# УЧОРА і СЁННЯ

Як збіраў Рамэшка збожжа,
Страшна ўспамінаці.
Мусіў з серпікам па полі
Тыдні тры гуляці.

Разам з жонкай ад світанку
І да самай ночы,
Заліваўся, бедны, потам,
Як той вол рабочы.

Сонца смажыла страшэнна,
Зной быў невыносны,
Уціраў ён твар кашуляй
Змучаны і злосны.

Збожжа ўсё перасплявала,
Зямлю засявала.
Бо сярпом у міг не зробіш,
Так раней бывала.

Сёння ўжо Раман іначай
Збожжа пажынае.
Ездзіць сабе на жняярцы,
Песеньку спявае.

— Дзе ты выдраў, брат, машыну? —
Рамана пытаю.
— Сельгурток мы залажылі,
Я член — карыстаю.

Цяпер станем гаспадарыць
Па-новаму — дбайна.
І напэўна неаздоўга
Купім і камбайна.

— Ну, цяпер не наракаеш,
Што цяжка рабіці?
— Не, браток, адно я знаю,
Што не знаў як жыці.

Янка Беразавец

## ЯК ГЭТА?

На ўроку заалогіі настаўнік гаворыць, што на зіму буслы адлятаюць у Афрыку і там прабываюць аж да вясны. Адзін з вучняў устаў і гаворыць:

— Як гэта можа быць, а я ж нарадзіўся ў снежні.

Марыя Нікіцюк
Бельск

## НЕПРЫЕМНЫ ЗАПАХ

Сусед прынёс Сцяпану бутэльку самагонкі і кажа:

— Панюхай, даражэнькі, чым яна пахне? Што прыпамінае табе гэты запах?

Сцяпан паглядзеў, панюхаў і кажа:

— Запах яе непрыемны. Ён прыпамінае мне вохны ў кратачкі.

Міхась Раманюк
Прыбудкі

## У СУДЗЕ

Суддзя да абвінавачанага:

— Вы ўжо чулі, што не можна з хлявоў выцягваць каровы.

Абвінавачаны:

— Я слухаў вушыма, а думаў галавой. Галава і вушы — вялікая розніца.

Сяргей Франкоўскі
Койлы




## РАЗУМНЫ САБАКА

— Быў у мяне разумны сабака, без памылкі адрозніваў злодзея ад культурных людзей.

— Ну і дзе гэты сабака дзеўся?

— Мусіў яго забіць, бо не раз мяне ўкусіў за ногу.

Янка Пэс
Ялоўка

## ДА АДНОЙ

Прыходзіць ў краму малады кавалер ды кажа:

— Ці ёсць у вас паштоўкі пад загалоўкам «Для адной».

— Ёсць, — адказвае прадаўшчык.

— Тады, калі ласка, дазвольце мне пятнаццаць штук.

Зіна Іванюк
Дубічы - Асочныя

САМААБСЛУГОЎВАННЕ

## ШАЛЁНЫ

У Доме вар'ятаў да доктара звяртаецца шалёны:

— Доктар! Пусціце мяне на волю, я ўжо здаровы!

— Чым дакажаш, што здаровы?

— Учора тапіўся чалавек, а я выцягнуў яго з вады.

— А дзе ён цяпер?

— Ён быў мокры, дык я павесіў яго за шыю на дрэве, каб высах.

Антось Васілеўскі
Гліўіцы

## Кругленька

Адзін нявопытны хлопец захацеў жаніцца. Калі ад'язджаў у сваты, маці загадала:

— Глядзі, сынку, каб гаварыў усё кругленька. Заехаў хлапец да дзяўчыны, сеў за стол і ўсё гаворыць:

— Абруч, абруч, абруч...

Жэня Гламбоцкая
Грыбаўшчына
Старая

# ПРАФІЛАКТЫКА

— Грамадзяне і грамадзянкі мікробныя! Жывем мы дрэнна, навокал бацылы разводзім, розныя вірусы нашае жыццё скарочваюць, а нам жыць доўга трэба, інакш не дойдзем да мэты.

Тут Кастусь зрабіў паўзу і праехаўся вачыма па прысутных, каб выявіць, ці выклікаў вялікае ўражанне.

Нехта крыкнуў: — Ты ў намесніцтве доктара гаворыш?!

— Я сам за сябе гавару, — адрэзаў Кастусь.

— Ціха, людзі! — прагучэў бас. — Дайце паслухаць. Чалавек сам сябе замяшчае. Вельмі цікава.

— Скаліць зубы майстры, а жывеце ў антысанітарных умовах, — заўважыў Кастусь. — Дэбаты тут непатрэбныя. Прапаную выбраць санітарную камісію, якая зробіць парадак ў вёсцы.

У камісію сход выбраў Кастуся (ад мужчын), Дар'ю (ад вясковых гаспадынь), Зіну (ад Саюза моладзі) і разыйшоўся.

У сваю чаргу, камісія выбрала старшынёй Кастуся і прыступіла неадкладна да справы. Вырашана было адразу пайсці па хатах. Заходзяць да цёткі Лушы.

З чым памілавалі? — спытала яна, ссунуўшы з пліты саган і папраўляючы падкочаную спадніцу.

— На падлозе брудна, пасудак не мыты, курыца ў гнаі грабласа, а цяпер гуляе па кухні, мух поўна — запішы Зіна, — падыктаваў Кастусь.

— Як трыйшлі мух біць, то я лапаты прынясу, — запрапанавала злосна Луша.

— Мы санітарная камісія і нашым абавязкам наводзіць чысціню ў вёсцы, — горда заявіў Кастусь.

— Кожны дзень будзеце чысціню наводзіць? — пацікавілася гаспадыня.

— Парадак сама зробіш, а мы скажам што і як. Вось, абед гатуеш у антысанітарных умовах. Пад нагамі лупіны, памыйнае вядро цячэ...

— Указчыкаў шмат, а я адна.

— Ты, гаспадынька, паглядзі праз мікраскоп на сваю кухню, мільёны бацыл убачыш, — сказаў на развітанне Кастусь.

— Вучоны знайшоўся, з цеслаком у памы заглядвае, — пранеслася следам за камісіяй.

У наступнай хаце быў парадак. На падлозе поўзала дзіцё. Убачыўшы чужых, яно адкрыла вочы і начала смактаць пальцы.

У гэты час увайшоў гаспадар. Ён дрэнна выцер абутак, бо на падлозе пакінуў сляды.

— Вось, гаспадар, напэцкаў, а дзіцё поўзае, пальчыкі смокча, вірусы глытае, — сказаў Кастусь.

— Па-вашаму ў сенях трэба распранацца і ў хату ўваходзіць без нагавіц, — адказаў гаспадар.

Зіна фыркнула. Дар'я закрыла вочы. А Кастусь адрэзаў: — Гаспадару відней дзе мікробы — ў нагавіцах, ці ў галаве. Мне дзіцяці шкада.

— А ты яго майстраваў? — ускіпеў гаспадар. Зіна выскачыла з хаты.

— Ты перш выгадуй дзіцё на здаровага грамадзяніна і тады падскаквай, — параіў Кастусь выходзячы.

— Не пайду далей! — рашуча заявіла Зіна.

— Так мы перасварымся з усёй вёскай, — выказалася Дар'я.

— Значыць, можна лічыць, што камісія закончыла сваю дзейнасць. Мікробы нам не пад сілу, — з сумам падвёў вынікі Кастусь.

Бачыце, людзі добрыя, як часам карыснае пачынанне, напаткаўшы першыя перашкоды, не даводзіцца да мэты з-за маладушнасці яго выканаўцаў.

Дзядзька Лявон



У век тэхнікі.




Акрабат на пенсіі (эмерытуры).



— Выбачай, дарагая, я крыху затрымаюся.

Сіла прызвычаення.



На курорце, як у хаце.

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023